Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 34 (86) | Вільня, 15-га сьнежня 1935 г. | Год 3-ці.

## Значэньне і арганізацыя самаўраду.

Урад прэм'ера М. Касьцялкоўскага пачаў энэргічную працу ўва ўсіх галінах дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця, хочучы перш-на-перш упарадкаваць фінансавую гаспадарку Дзяржавы. Зразумела, што датуль нельга думаць аб нейкім палепшаньні дзяржаўнае гаспадаркі, пакуль дзяржаўныя расходы не дапасуюцца да прыходу. Папярэднія польскія Урады па рознаму давалі сабе раду з гэтым найтруднейшым заданьнем для кожнага Ураду наагул. Адны пакрывалі недаборы заграчінымі пазыкамі, другія — пазыкамі ўнутранымі, іншыя зьбілянсоўвалі хітра-мудра толькі на паперы, ведаючы, што не яны а нейкі іншы Урад будзе ламаць галаву ў канцы году над тым, скуль пакрыць дэфіцыт.

Шматгадовая практыка аднак паказала, што ўсе гэныя штучкі не ратуюць палажэньня. Латаецца то тут, то там, латаецца ад прыпадку да прыпадку, а ў выніку нічога добрага няма: хвост вылезе, нос увязьне;—нос вылезе, хвост увязьне. Нават так вялікія ўнутраныя пазыкі, як так зв. нацыянальная ды інвэстыцыйная, якія прайшлі з такім вялікім, здавалася-б, пасьпехам, палажэньня не ўратавалі. Амаль кожны год вымагаў усё новых ды новых пазыкаў, а гаспадарчае палажэньне Дзяржавы з кожным годам фактычна пагаршалася.

Нічога дзіўнага, што перад Урадам міністра Касьцялкоўскага стала пытаньне: ці надалей пакінуць нерэальныя, папяровыя толькі зьбілянсаваныя, дзяржаўныя бюджэты ды каціцца ўніз па пахілай плошчы ў невядомую даль, ці падыйсьці да разьвязкі гэтага, бязумоўна, вельмі і вельмі труднага пытаньня рэальна, па-гаспадарску?

Пан мін. Касьцялкоўскі як бачым выбраў апошняе: падняўся зірнуць праўдзе ў вочы ды адважна пайшоў вайною на „ўсемагутны крызыс".

Прыйшлося аднак і яму ў першую чаргу часткова хапіцца за стары мэтад сваіх папярэднікаў, ды пачаць абніжэньне дзяржаўных расходаў ад абрэзкі пэнсіі нават ніжэйшым урадоўцам, але аднак раўналежна з гэтаю, ня зусім, шчыра кажучы, удалаю мераю пайшлі і другія, а ў першую чаргу—барацьба з так званымі „картэлямі". Прымусова абніжаны акром таго цэны на некаторыя прадукты першай патрэбы, як: цукар, жалеза, вугаль і г. д. Чуваць, што ў хуткім часе Урад думае выдаць яшчэ шмат загадаў, датычачых іншых галінаў дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця, ня чуваць толькі нічога аб самаўрадах. Праўда, гаворыцца аб тым, што Урад думае зваліць значную частку адміністрацыйнае работы на самаўрады, але аб самых самаўрадах нічога не гаворыцца.

Бязумоўна самаўрад у дзяржаўным жыцьці можа і павінен адыгрываць важную ролю, але для гэтага аднак трэба, каб ён быў сапраўды самаўрадам, а ня тым, чым ён ёсьць у сучасны мамэнт. Трэба, каб на месцы кіравалі народнаю гаспадаркаю людзі, зьвязаныя з краем, народныя, так сказаць, прадстаўнікі, а ня стаўленікі адміністрацыі. А ў нас, прынамсі на тэрыторыі Заходняе Беларусі, большасьць гаспадароў самаўрадаў гэта людзі зусім чужыя. Урэшце наагул сучасная структура самаўраду, калі на чале павятовага соймiку, напр. стаіць чыноўнік (стараста), зьяўляецца недарэчнай ды вельмі каштоўнай. Папершае стараста не заўсёды бывае гаспадарлівы, па другое зусім непатрэбна выдаецца яму другая пэнсыя. Калі-б самаўрад быў унезалежнены ад адміністрацыі, дык перадусім нехта меў-бы кусок хлеба, падругое напэўне былі-бы выбраны лепшы гаспадар, патрэцяе, усё гэтае разам каштавала-б шмат танней. А самае галоўнае самаўрад павінен быць сапраўды самаўрадам, а ня фікцыяй. Туды павінны бяз ніякіх перашкодаў з боку адміністрацыі быць выбраны мясцовыя гаспадары, якія, ведаючы і варункі маючы больш досьледу ды будучы зьвязаны кроўна з сваім вокругам (валасцьяй ці паветам), гаспадарылі-б шмат ашчадней. Шырокі плян п. мін. Касьцялкоўскага—аздараўленьне ўсяго дзяржаўнага арганізму, можа мець пасьпех толькі і выключна тады, калі ён у працы сваёй абапёрся-б на сапраўдны самаўрад, да перабудовы якога ў першую чаргу і павінен Урад прыступіць. Не „варягі" а толькі тутэйшыя людзі здолеюць перамагчы крызыс. Але для гэтага мусіць быць дадзена свабода і крытыкі недарэчнасьці і выбараў у самаўрады, чаго нажаль пры апошняй арганізацыі (бо нельга назваць гэта выбарамі) самаўрадаў ня было.

## Адклад не заўсёды ідзе ў лад.

Школа для усіх! Бясплатнае навучаньне! — вось лёзунгі, якія чуваць пры ўсякай рэвалюцыі, пры ўсякай перабудове грамадзкага ці дзяржаўнага жыцьця.

Лёзунгі бязумоўна слушныя — гэта той найвышэйшы ідэал, да каторага павінна імкнуцца кожнае грамадзянства. Але толькі ідэал, бо-ж практычна вельмі трудна асягальны.

На што ўжо камуністы, якіх хіба ніхто не пераліцытуе ў кіданьні прыгожых, захопліваючых клічаў,! аднак і тыя, дасягнуўшы ўлады, гэтых лёзунгаў зьдзейсьніць не маглі.

Грымелі калісь гэныя лёзунгі і ў Польшчы, нават быў здаецца такі адзін (першы) год—1920, калі школа была калі не для ўсіх, дык прынамсі бязплатная. Аднак, як ужо зазначана, трывала гэта толькі адзін год і то здаецца ня цэлы. Зараз-жа пачалі ўводзіць плату за навуку — перш пад рознымі відамі—замаскавана, а пасьля і зусім выразна пад назовам „адміністрацыйнай таксы".

У сучасны мамэнт, як ведама, гэная адміністрацыйная такса ў год ад дзіцяці ў сярэдняй дзяржаўнай школе выносіць не маленькую суму, бо аж 220 злотых. У нас у Вільні да гэтага яшчэ даходзіць 5 зл. на абавязкавы школьны тэатр ды 4 зл. на лекарскую помач.

Калі да гэтага яшчэ дадаць розныя „дабравольныя" ахвяры, то на будову школаў, то на іншыя мэты, дык атрымаем каля 240 зл. у год ад вучня.

Так прадстаўляецца справа ўва ўсіх дзяржаўных польскіх школах.

У нашай Віленскай Беларускай Гімназіі справа прадстаўляецца крыху інакш

Не зважаючы на тое, што Гімназія нашая, як дзяржаўная, падлягае агульным правілам, дырэктару Астроўскаму нейк удаецца гэты непасільны для нашых дзяцей цяжар памяншаць у сярэднім амаль на палову. Большасьць нашых вучняў плаціць ня больш як 50% 60%, а некаторыя нават і таго меней—15—25 проц. Акром таго пры гімназіі істнуюць інтэрнаты: хлапцоўскі на 60 чал. і дзявочы на 40. Поўнае ўтрыманьне ў інтэрнаце каштуе 25 зл., але і гэта сума памяншаецца таксама амаль да палавіны, бо-ж ізноў-жа дырэктар Астроўскі нейк здабывае ўрадовыя дапамогі.

Найбольш бедныя вучні івучаніцы у лічбе каля 30 проц. жывуць ў інтэрнаце зусім бясплатна

Ясна, што ў нас галіта настолькі вялікая, што нават гэтых невялікіх сумаў, якія прыпадаюць на паасобных вучняў, часта бацькі заплаціць ня могуць І тут вось пачынаецца трагэдыя ня толькі для іх, але і для ўсяе школы.

Пры так абмежаных бюджэтах і гімназія і інтэрнаты могуць правільна функцыянаваць толькі пры адным варунку: — акуратнай аплаце і за навуку і за інтэрнат у вызначаныя дырэкцыяй гімназіі тэрміны.

Нажаль бацькі відаць таго не разумеюць, што не прысылаючы ў азначаны тэрмін належных за дзіця грошы, яны пагаршаюць тым самым ўтрыманьне свайго дзіцяці, бо-ж за тавар, набраны ў доўг, трэба заплаціць даражэй, а сам тавар атрымоўваецца шмат горшы.

На гэтым церпяць зразумела зусім нявінна дзеці тых, хто свой абавязак выконвае акуратна. Мы добра разумеем, што часта матэр'яльнае палажэньне бацькоў бывае так цяжкое, што трудна абвінавачваць іх у нядбальстве ці злой волі, але аднак ад гэтага не лягчэй.

Кожнаму хацелася-б даць навуку свайму дзіцяці, але аднак ня ўсе гэта могуць сабе пазволіць.

І дзеля гэтага той, хто пасылае дзіця павінен, перш даведацца аб варунках, а прыслаўшы павінен гэныя варункі споўніць, каб ня быць цяжарам для другіх. З сумам аднак трэба тут зазначыць, што не заўсёды прычынаю неакуратнага споўненьня абавязкаў у адносінах да школы зьяўляецца матэр'яльнае палажэньне. Нам ведамы такія выпадкі, калі бацькі ня плацяць дабравольна належных грошай да таго мамэнту, пакуль дзіця не выдаляецца з школы.

Але з гэтага ізноў жа нічога добрага ня выходзіць, бо дзіця некалькі дзён (пакуль бацька ўрэшце прышле грошы) прапушчае лекцыі, тармазіць правільны ход занятках у школе, а ўвыніку дастае двойкі і... пазбаўляецца наагул права карыстацца з зьніжак. А пасьля такі бацька скрабе сабе галаву, што сыну ці дачцы „налажылі" поўную плату. А вінаваты сам!

Не заўсёды, як бачым, адклад ідзе ў лад.

## Праца польскіх чугунак.

Міністар камувікацыі інжынер М. Буткевіч у пачатку гэтага тыдня меў гутарку з прадстаўніком агенцыі Iskra".

— Пасажырскі рух, — сказаў п. міністар,—заўсёды павінен адпавядаць фінансава-гаспадарчым варункам краю, але ў той самы час польскія чугункі павінны стаяць на належнай вышыні.

У 1932 годзе польскія чугункі перавязьлі 114 мільёнаў пасажыраў, у 1934 годзе — 146 мільёнаў, за першае паўгодзьдзе 1935 году—71 мільён пасажыраў. За тыя самыя пэрыяды пакрыта было пасажыра - кілёмэтраў 4.695.000, 5.275.000 і 2.625.000 (за сёлетняе паўгодзьдзе). Таварны рух за гэтыя гады моцна пабольшаў.

У 1936 годзе проектуецца ўвядзеньне на некаторых чугуначных лініях прысьпешаных таварных цягнікоў на злучаных тормазах, што мае на мэце прысьпяшэньне таварнага руху.

Што датычыць бясьпечнасьці чугуначных падарожаў, дык за апошнія 9 гадоў лік катастрофаў і стычак значна зьменшыўся. Уводзяцца далей на чугуначных лініях найнавейшыя тэхнічныя ўдаскаленьні, каб павялічыць бясьпечнасьць руху.

Затым прыняты меры, каб даставіць чугункам неабходныя дый пры гэтым добрае якасьці матэр'ялы. Аднача сна скарочана да мінімуму карыстаньне заграгічным матар'яламі. Створаны агульны плян з купу матар'ялаў агульнага карыстаньня для чугунак.

